24 ЖНІЎНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№95 (626) КОШТ СВАБОДНЫ




СКАНДАЛ

## Маньяк в детском лагере

Ростислав ПЕРМЯКОВ

**В ночь с четверга на пятницу в одном из детских оздоровительных лагерей Воложинского района случилось чрезвычайное происшествие.**

Как рассказали нам родители, чьи дети находятся в этом лагере, около двух часов ночи в палату на втором этаже, где находились девочки 10-11 лет, вошел неизвестный мужчина. Он назвался доктором и сообщил, что пришел делать укол от дифтерии. Мужчина сделал иньекцию одной девочке и сразу ушел. По дороге его пыталась остановить проходившая мимо вожатая, но неизвестному удалось уйти.

После укола девочке сразу стало плохо. Она пожаловалась персоналу на свое плохое состояние и вскоре потеряла сознание. В лагерь была срочно вызвана «скорая помощь» из Минска. Ребенка сразу отвезли в реанимацию. Только благодаря оперативным действиям медиков девочка осталась жива. «Укол от дифтерии» на самом деле оказался сильнодействующим наркотиком.

Родители детей сообщили нам, что направили заявление в Воложинский РОВД с требованием установить в лагере стационарный милицейский пост с целью обеспечения безопасности детей по ночам. Многие уже забрали из лагеря своих чад. Однако пост там так и не появился.

Местные жители говорят, что это уже не первый такой случай. Этим летом как минимум одно такое происшествие произошло в Молодечненском районе. Говорят даже про маньяка, который действует уже три года.

Чтобы проверить этот факт, мы связались с минским областным управлением внутренних дел. Представитель пресс-центра сообщил нам, что ничего про маньяка в детских лагерях ему неизвестно, и посоветовал обращаться за информацией непосредственно в Воложинский РОВД.

Начальник Воложинского РОВД Валентин Лаппо не отрицал, что происшествие действительно случилось. Однако про родительское заявление он услышал впервые от нас. Мы разговаривали с ним вчера, и он сказал, что бессмысленно выставлять в лагере пост охраны – так как последняя смена в лагере заканчивается уже сегодня, 24 августа, т.е. охрана будет только на одну ночь. «Если в эту ночь действительно что-то случится, то тогда вы можете обвинить меня ничего не делающим и неправым», – заявил он в беседе с корреспондентом НАВІНАЎ.

Из расспросов в лагере стало известно, что маньяку около 40 лет, интеллигентного вида. Возможно, что он разъезжает на Audi.

В следующих номерах мы обязательно вернемся к проблеме поисков маньяка. ■

# Роковое решение

## Белорусские власти берут на себя обязательства, способные сменить власть в стране



● «Вы меня неправильно поняли...»

Николай ХАЛЕЗИН

**То, что произошло на сессии Подкомиссии ООН по поощрению и защите прав человека 20 августа, еще предстоит осмыслить. Сегодня можно предположить два варианта произошедшего: либо белорусские власти коренным образом меняют свои подходы к соблюдению прав человека в стране, либо они допустили роковую для себя ошибку.**

### Как это было

Ситуация в Женеве развивалась достаточно странно. Еще накануне сессии, когда американский эксперт собрал подписи членов Подкомиссии, стало понятно, что резолюция о состоянии прав человека в Беларуси будет принята без особых проблем. В проекте резолюции, как и во всех предыдущих документах, принятых международными структурами в отношении Беларуси, перечислялись случаи нарушения и содержались требования к белорусскому руководству изменить существующее положение.

Но ход событий был резко изменен делегацией, представляющей белорусские власти. Прямо накануне голосования по проекту резолюции официальные представители Беларуси сделали заявление, после которого авторы проекта решили снять его с голосования. Что же заявили представители белорусской делегации? ▶

*Окончание на стр.3*

СПЕЦСЛУЖБЫ

## Пошукі бомбы скончыліся вобыскам...

Наталля РАДЗІНА

**19 жніўня, каля 6 гадзінаў вечара, у офіс Свабодных прафсаюзаў Беларускіх уварвалася аператыўная група РАУС Партызанскага раёна. Аператыўнікі заявілі, што ў памяшканні знаходзіцца бомба. Аднак, пры паўнамоцтвах шукаць толькі выбуховае прыстасаванне, міліцыя канфіскавала з офіса 8 упаковак улётак, якія прызначаныя для запланаваных СПБ акцыяў пратэсту супраць прэзідэнцкага дэкрэта аб узмацненні працоўнай дысцыпліны. У той жа дзень і ў гэты ж час «міну» шукалі і ў прыватнай друкарні «Мэджык», якая рыхтавала да выпуску пятнічны нумар «БДГ».**

Пасля прыбыцця ў СПБ прадстаўнікі РАУС паведамілі, што на службу 02 паступіла паведамленне аб закладзеным у офісе Свабодных прафсаюзаў выбуховым прыстасаванні, якое павінна ўзарвацца ў 20:00. Выбуху, зразумела, не было ні ў 20:00, ні ў 21:00, але міліцыя шукала «бомбу» на працягу трох з паловай гадзінаў. Пры гэтым, як ні дзіўна, усе тэлефоны ў офісе СПБ не працавалі, так што супрацоўнікі прафсаюза не змаглі абвесціць прэсу.

Не маючы ордэра на вобыск, міліцыя ўсё ж зацікавілася пакункамі з улёткамі, якія прадстаўлялі з сябе перадрукоўкі з апазіцыйнай прэсы, пад агульнай назвай «Восенню на вуліцу выйдуць дзесяткі тысяч чалавек». Пры «шукаючых бомбу» чамусьці знаходзіўся супрацоўнік КДБ, якога пазналі прафсаюзнікі.

Член выканкама СПБ Анатоль Гурыновіч пракаментаваў сітуацыю так: «Зразумела, што гаворка ішла не аб мінах і бомбах, а аб звычайным вобыску. Агляд быў настолькі павярхоўным, што адразу было зразумела, шукаюць зусім не выбуховае прыстасаванне. Гэта проста ўжо набіўшыя аскоміну метады запужвання».

У гэты ж час, у 18:00, у друкарню «Мэджык» увайшлі прадстаўнікі Савецкага РАУС. Абвесціўшы аб закладзенай бомбе, яны выдалілі з памяшкання ўсіх рабочых, якія якраз рыхтавалі запусціць у друк чарговы нумар «БДГ». Пільны агляд друкарні зноў-такі нічога не даў, і праз гадзіну міліцыя пакінула памяшканне. ■

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Алега Трусава будуць судзіць

Сёння у 11.00 у Савецкім райсудзе Мінска будуць судзіць старшыню Таварыства беларускай мовы Алега Трусава. Яму інкрымінуецца ўдзел у несанкцыяваным шэсці 27 ліпеня, арганізаваным БСДП (Народная Грамада). Старшыня партыі Мікола Статкевіч атрымаў у тым жа Савецкім райсудзе 15 сутак адміністратыўнага арышту і адначасова «заслужыў» крымінальную справу, якую супраць яго ўзбудзіла Мінская гарадская пракуратура. Амаль праз месяц беларуская Феміда ўзгадала, што ў тым памятным шэсці ўдзельнічаў і Алег Трусаў.

Аддзел інфармацыі

### Клінтан саксафонам зарабляе грошы для Хілары

У мінулы ўік-энд амерыканскаму прэзідэнту давялося добра пайграць джаз на саксафоне, каб дапамагчы сваёй жонцы. Як вядома, Хілары Клінтан плануе стаць у наступным годзе сенатарам, і на выбарчую кампанію ёй патрабуюцца вялікія грошы – каля 250 тысяч доляраў. Такіх сродкаў у сям'і няма, і таму Біл быў вымушаны ўзгадаць свае музычныя задаткі і ўзяць удзел у адмысловай музычнай вечарыне для патэнцыйных донараў.

### Няўмека з ЦРУ

Былы дырэктар ЦРУ Джон Дойч быў днямі пазбаўлены сакрэтнага допуску за «парушэнне працэдуры сакрэтнасці пры вывучэнні і захаванні дакументаў у сваім хатнім камп'ютэры». Гаворачы простай мовай, Джон Дойч проста цягаў сакрэтныя дакументы дадому, дзе і вывучаў іх – што катэгарычна забаронена правіламі.

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ



НАДВОР'Е




**24 жніўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, у паўночна-заходніх раёнах дажджы, магчымы навальніцы, вецер пераменных напрамкаў, 3–8 м/сек. У наступныя двое сутак, 25–26 жніўня, па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**480 000**

АЎТОРАК З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Падстава законнасьці

На пачатку верасьня мае адбыцца рэспубліканскае сьвята — Дзень беларускай пісьменнасьці. Асяродкам сьвяткаваньня вызначаны Пінск, а ў якасьці сьвяточнай дамінанты міністэрства культуры абрала 470-я ўгодкі Статута Вялікага Княства Літоўскага. З гэтага вынікае, што мноства ўрачыстых прамоваў мусіць быць прысьвечанае законнасьці, уплыву Статута на заканадаўства суседзяў, параўнаньню з юрыдычнай думкай тагачаснай Эўропы, ды, зразумела, паважнаму месцу помніка ў гісторыі разьвіцьця беларускага пісьменства.

Вітаючы клопат пра духоўную спадчыну, можна абнадзеяцца, што шанаваньне Статута дасьць пэўны плён і ў сфэры стаўленьня да нашай сучаснай пісьменнасьці. На тле звужанага ўжытку беларускай мовы, на тле яе абразьлівай адапхнутасьці на культурны задворкі, на тле афіцыйнай дзяржаўнасьці ў Беларусі рускай мовы (прапагандуецца і падтрымліваецца ўсімі галінамі ўлады ідэалагічна і фінансамі) Дзень беларускай пісьменнасьці міжволі вымушае ўзгадаць гвалт над нашай мовай, вядомы пад назвай моўнай рэформы 1933 года. Рэальныя абставіны 33 года — цягнікі ў Сібір з беларускай інтэлігенцыяй, барацьба з так званай «нацдэмаўшчынай», забарона на выкладаньня на беларускай мове, рэпрэсіі, запужваньне і г. д.

Абмяркоўваючы на сьвяточных зборках пытаньні законнасьці, ці магчыма будзе пакінуць увагай прынцыповую праблему: наколькі законныя тыя законы, якія навязваліся грамадзтву ў беззаконныя часы сталінскай дыктатуры, калі нават змоўчаная нязгода магла каштаваць ня толькі волі, але і жыцьця?

Меркаваньні памяркоўных асобаў, што трэба, каб народ напачатку авалодаў хоць бы «наркомаўкай», а ўжо тады яму захочацца палюбіць рэпрэсаваны «мяккі знак», даўно засьведчылі сваю бязглуздасьць. Дзеля таго і русіфікавалі беларускі правапіс, каталі да сьмерці мноства дасьведчаных у філялёгіі людзей, каб беларусы менш разумелі родную мову, а прызвычайваліся карыстацца рускай.

Беларусаў, якія сёньня на Беларусі ўжываюць беларускую мову пасля заканчэньня школы, не надта багата, таму незразумела, нашто ім карыстацца «наркомаўкай». Калі ўжо трымацца беларускасьці, дык лепей з двух варыянтаў — русіфікаваны ці беларускі правапіс — абраць для карыстаньня другі. Бо ён родны, не мае на сабе сьлядоў абразьлівага аблягчэньня і, што найбольш важна, законны. Першы Статут ВКЛ абавязваў да заканапаслухмянасьці, і варта на яговых 470-я ўгодкі, у Дзень беларускай пісьменнасьці, разважыць, чаму новыя законы ахоўваюць неpісьменнасьць бальшыні народа ў мове дзядоў і прашчураў.

ФОТАФАКТ




Фота ПЕУ/Рой Мёоа

● Па дамоўленасьці паміж кіраўніцтвам калгаса і камандаваннем часткі асобовы склад аднаго з падраздзяленняў дапамагае калгасу, за што атрымлівае частку ўраджаю.

## Да Лукашэнкі прыедзе Кучма

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма мае намер 1 верасня прыбыць з візітам у Беларусь. Кіраўнік Украіны збіраецца пабываць у Брэсце і сустрэцца там з Аляксандрам Лукашэнкам.**

Прыезд украінскага прэзідэнта ў нашую краіну можа стаць першым афіцыйным візітам кіраўніка замежнай дзяржавы пасля 20 ліпеня, калі Аляксандр Лукашэнка страціў сваю прэзідэнцкую легітымнасць. Леанід Кучма паабяцаў Лукашэнку прыехаць у Беларусь яшчэ вясной гэтага года, калі беларускі прэзідэнт знаходзіўся з візітам у Кіеве. Аднак, пазней з'явілася інфармацыя, што кіраўнік Украіны замест таго, каб рыхтавацца да паездкі ў Беларусь, зноў запрашае Аляксандра Лукашэнку да сябе. І вось нарэшце сітуацыя праяснілася. На мінулым тыдні Леанід Кучма прыняў беларускага амбасадара ва Украіне Віталя Курашыка і паведаміў яму, што гатовы наведаць Беларусь у пачатку верасня. Прэзідэнт Украіны выказаў пажаданне, каб ягоная сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам адбылася ў Брэсце, паколькі сп.Кучма ўжо даўно хацеў наведаць гэты горад. ■

ПЕРАМОЎНЫ ПРАЦЭС

## Апазіцыя назаве склад дэлегацыі на перамовы ўжо на гэтым тыдні

Рыгор БУЯН

25 жніўня на чарговым паседжанні міжпартыйнага Кансультатыўнага савета можа быць агучаны персанальны склад дэлегацыі, якую апазіцыя мяркуе выставіць на перамовы з выканаўчай уладай. Пра гэта заявіў намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Да серады кіраўнічыя органы партыяў ужо павінны былі вылучыць і зацвердзіць сваіх прадстаўнікоў у дэлегацыю. У прыватнасці, Палітсавет АГП мае зацвердзіць уласную кандыдатуру сёння, а заўтра з гэтай жа нагоды збіраецца Выканаўчае бюро БСДП (Народная Грамада).

У парадку дня чацвёртага паседжання Кансультатыўнага савета стаяць два пытанні. Найперш лідэры партыяў хочуць зацвердзіць персанальны склад чатырох экспертных групаў, якія будуць дапамагаць апазіцыі рыхтавацца да перамоўнага працэсу. На папярэднім паседжанні Кансультатыўны савет прапанаваў і кандыдатуры кіраўнікоў групаў: экспертную работу па доступу апазіцыі да СМІ прапанавана ўзначаліць кіраўніку Цэнтра юрыдычнай дапамогі БАЖ Міхаілу Пастухову, працэдурныя пытанні будуць прапрацоўваць эксперты на чале з Юрыем Хадыкам, групу па канстытуцыйных пытаннях прапануецца ўзначаліць Міхаілу Пліску, а ўсю работу па палітычных вязнях, хутчэй за ўсе, узначаліць кіраўнік «Вясны-96» Алесь Бяляцкі. Дарэчы, Кансультатыўны савет удакладніў платформу апазіцыі, у якой ідзе гаворка пра палітвязняў. Апазіцыя, па прапанове в.а. старшыні БНФ Л.Баршчэўскага, запатрабавала ад уладаў не толькі вызваліць з беларускіх турмаў палітвязняў, але і прыкласці ўсе намаганні, каб вярнуць на Беларусь усіх выгнаннікаў, якія вымушаныя былі прасіць палітычнага прытулку за межамі краіны.

Другім пытаннем у парадку дня стаіць разгляд працэдуры вядзення перамоваў з рэжымам. ■

КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

## Куды ляціць беларускі рубель?

### Эксперт прагназуе двайное падзенне курсу беларускага рубля да канца года

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**У Беларусі пачаў імкліва расці курс наяўнага долара на «чорным рынку». Толькі за апошні тыдзень беларускі рубель у адносінах да амерыканскай валюты патаннеў на 30 тысяч. Сёння мінскія валютчыкі ўжо даюць за долар 480—485 тысяч рублёў, а набыць найбольш папулярную валюту можна за 500 тысяч. У чым прычына такой хуткай дэвальвацыі беларускіх грошай?**

Як паведаміў нам вядомы эксперт у галіне фінансаў, кандыдат эканамічных навук Валерый Дашкевіч, асноўнай прычынай росту долара стаў заганны курс дзяржавы, скіраваны на бюджэтную падтрымку аграрнага комплексу краіны і будаўніцтва льготнага жылля. Тыя валютныя паступленні, што даюць у дзяржбюджэт некаторыя прадпрыемствы за прададзеныя на Захад тавары, не могуць задаволіць растучыя апетыты савецкіх калгасаў і саўгасаў. А тавараабарот паміж Беларуссю і Расіяй за апошнія месяцы скараціўся прыкладна на 22 працэнты. Прычым атрымаць ад усходняга суседа рэальныя грошы за пастаўленую прадукцыю вельмі цяжка — расіяне ў асноўным расплачваюцца з беларусамі славутым бартэрам. Часта кошт за адпраўлены ў Расію тавар ідзе ў залік за запазычанасць па энергарэсурсах. У гэтай сітуацыі беларускае кіраўніцтва ўключыла станок для друкавання грошай. Паводле неапублікаваных дадзеных Нацбанка, аб'ём грашовай эмісіі толькі за сем месяцаў гэтага года складае 35,3 трыльёна нічым не падмацаваных, пустых рублёў.

Паводле прагнозаў Валерыя Дашкевіча, адзнака ў 500 тысяч рублёў за долар будзе пераадоленая яшчэ да канца жніўня. Але асноўны рост курсу долара і адпаведны скачок цэнаў у крамах многія спецыялісты чакаюць у верасні. Бо, на думку як урадавых, так і няўрадавых спецыялістаў, у верасні адзін долар будзе каштаваць 600 тысяч нашых пустых рублёў. А да канца года, паводле прагнозаў банкіраў, за наяўны долар будуць даваць ад 800 тысяч да 1 мільёна беларускіх рублёў.

А тым часам, каб хоць неяк выратаваць становішча ў эканоміцы, беларуская ўлады, падобна, гатовыя зрабіць самыя бязглуздыя крокі. На сталe ў Аляксандра Лукашэнкі ўжо некалькі дзён ляжыць падрыхтаваны праект дэкрэта аб абавязковым 100-працэнтным продажы прадпрыемствамі сваёй валютнай выручкі. Прычым, на думку Валерыя Дашкевіча, верагоднасць падпісання кіраўніком дзяржавы гэтага дакумента вельмі вялікая. Калі ж гэта адбудзецца, то абвал выторчасці стане проста непазбежным. Прадпрыемствы будуць проста адмаўляцца нават ад самых выгадных кантрактаў з заходнімі партнёрамі, бо ўсю заробленую валюту родная дзяржава скупіць у іх па рабаўніцкім курсе Нацбанка ў 276 тысяч рублёў за долар. Гэтых грошай не хопіць нават на закупку сыравіны.

Такім чынам, другі год запар у жніўні ў Беларусі пачынаюцца крызісы. Прычым сёлетні па сваіх памерах можа значна пераўзысці мінулагодні. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

> **Находясь у власти и имея в своих руках государственный аппарат, можно «сделать» результаты выборов.**
>
> *Нина РОМАНОВА*
> *«Советская Белоруссия», 21 августа 1999г.*

ПАРТЫІ

## Рэгіёны падтрымалі Мінск

Алесь СЕРДЗЮКОЎ

Магілёўская арганізацыі палітычных партыяў падтрымалі сваё кіраўніцтва, якое падпісала мемарандум аб перагаворным працэсе. Напрыканцы мінулага тыдня 5 лідэраў магілёўскіх арганізацыяў правялі кансультатыўную нараду. На нарадзе былі абмеркаваныя шляхі супрацоўніцтва на выпадак, калі ў Мінску пачнуцца перамовы аб'яднанай апазіцыі з уладамі.

Аднак мясцовыя палітыкі вырашылі каардынаваць свае намаганні не толькі на выпадак перамоваў, але і ў будучыні, падчас кантролю за выбарамі. На нарадзе была падпісаная дэкларацыя намераў, у якой прадстаўнікі БСДП, АГП, БНФ, ПКБ, жаночай партыі «Надзея» заявілі «аб намеры стварыць абласны каардынацыйна-кансультатыўны савет і вынесці гэтае пытанне на разгляд мясцовых арганізацыяў». А на наступнай нарадзе яе ўдзельнікі збіраюцца фарміраваць рэгіянальныя пытанні і давесці да цэнтральных органаў і партыяў з мэтай, каб яны адстойвалі рэгіянальныя інтарэсы на перамовах. ■

## Створаная арганізацыя «Няміга-99»

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Бацькі загінуўшых і пацярпелыя падчас трагедыі ў мінскім метро 30 траўня аб'ядналіся ў цэнтр сацыяльнай абароны «Няміга-99». Арганізацыя будзе займацца дапамогай тым, каго закранула гэтая бяда, і абараняць іх правы. Актывісты «Нямігі» настойваюць на тым, каб было завершанае ўсебаковае расследаванне падзеяў і названыя вінаватыя: яны ўпэўненыя, што ў іншым выпадку трагедыя, якая адбылася ў падземным пераходзе метро 30 траўня, мае больш шанцаў паўтарыцца. Таксама цэнтр зоймецца арганізацыяй дабрачынных мерапрыемстваў і зборам сродкаў для аказання дапамогі пацярпелым і бацькам ахвяраў. Плануецца выпусціць кнігу памяці аб тых, хто загінуў у метро на «Нямізе».

47 жыхароў Мінска ўжо выказалі жаданне стаць сябрамі арганізацыі. Яе старшынёй абраная Наталля Навакоўская, якая ў трагічны дзень 30 траўня страціла на «Нямізе» дачку. ■

## Зноў няма гарачай вады

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

На мінулым тыдні ў другі раз за лета была адключаная гарачая вада ў большасці раёнаў горада Мінска. Першы раз адключэнне адбывалася пачаргова ў траўні-чэрвені, калі тэмпература паветра была значна большая. Гэта звязанае з распараджэннем №817 Мінгарвыканкама, якое, праўда, рэгламентавала адсутнасць гарачай вады толькі на перыяд з 19 па 23 жніўня. Прадстаўнік паліўна-энергетычнага аддзела Мінгарвыканкама адмовіўся патлумачыць падставы адключэння воднага падагрэву, але выказаў спадзяванні, што калі не з сённяшняга дня, то ўжо ў бліжэйшы час падача гарачай вады будзе ўзноўленая. ■

СПОРТ

## Ці паўтораць беларусы Штутгарт?

Алесь ШМЯЛЁЎ

Гэтымі днямі ў іспанскім горадзе Севілья распачаўся чарговы чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы. Гэтыя спаборніцтвы, якія праводзяцца раз на два гады, традыцыйна збіраюць усіх найбольш моцных і хуткіх лёгкаатлетаў свету. На гэты раз на чэмпіянаце будуць супернічаць больш за дзве тысячы спартсменаў з двухсот краінаў свету. Спаборніцтвы працягнуцца дзевяць дзён, а нас больш за ўсё будуць цікавіць вынікі беларускіх лёгкаатлетаў.

Трэба ўзгадаць, што ў 1993 годзе, калі Беларусь упершыню дэбютавала на лёгкаатлетычным форуме такога ўзроўню (тады чэмпіянат праводзіўся ў нямецкім Штутгарце). Тады нашыя спартсмены ўтварылі сапраўдны фурор, заняўшы другое месца па колькасці заваяваных узнагародаў, што дало права назваць Беларусь сапраўды спартыўнай краінай. У 1997 годзе ў шведскім Гётэборгу папярэдні поспех замацаваць не атрымалася, але ёсць шанец нагадаць аб сабе зараз, у Севільі. Дык пажадаем нашым атлетам поспехаў і медалёў! ■

# Роковое решение

*Окончание. Начало на стр.1*

## Что это было

В соответствии с заявлением, которое позволило отсрочить принятие резолюции Подкомиссии ООН, руководство Беларуси приняло на себя следующие обязательства:

**Пригласить в ближайшее время в Беларусь Спецдокладчика ООН по независимости судей.**

Что увидит Спецдокладчик? Во-первых, телефоны в совещательных комнатах судей, по которым отдаются указания о ходе процессов. Во-вторых, тотальные нарушения процессуального кодекса. В-третьих, политические судебные процессы, замаскированные под уголовные. И самое главное, полный контроль над судами со стороны исполнительной власти.

Организовать в ближайшее время приезд в Беларусь Рабочей группы по произвольным задержаниям.

Для Рабочей группы может стать сюрпризом информация о том, что после каждой мирной акции оппозиции за решеткой оказывается по несколько десятков человек. Если представители делегации захотят поговорить с журналистами независимых СМИ, то смогут узнать, сколько раз тех задерживали сотрудники милиции во время исполнения профессиональных обязанностей. Еще один интересующий специальную группу нюанс — содержание под стражей лиц, обладающих депутатской неприкосновенностью.

Принять все необходимые меры для вступления Беларуси в Совет Европы в течение года и затем присоединиться к Европейской конвенции по правам человека.

Это, пожалуй, самый невыполнимый для властей пункт. Выполняя его, придется, например, отказаться от применения в стране смертной казни. А ведь за ее применение высказалось большинство жителей Беларуси на референдуме 1996 года. Напомню, что за весь период руководства страной Александр Лукашенко не подписал ни одного решения о помиловании.

Принять меры для снятия оговорки к статье 20 Конвенции против пыток (в этой статье предусматривается проведение Комитетом против пыток расследования в стране, где пытки применяются).

Комитету против пыток придется надолго задержаться в нашей стране. Им предстоит встречаться с «валютчиками», подвергающимися избиениям со стороны сотрудников милиции; бизнесменами, допрашиваемыми десятками часов кряду во время проведения следственных действий; политиками, подвергающимися как моральному, так и физическому прессингу со стороны силовых структур.

Провести законодательные реформы, направленные на защиту прав человека и демократию.

Выполнение этого пункта так же тяжело представить, как Александра Лукашенко, добровольно ушедшего в отставку. Чтобы провести подобные реформы, придется не просто исправить ряд законодательных актов, а полностью изменить концепцию развития страны.

Ввести в следующем году пост независимого омбудсмена.

Это пожалуй единственный пункт, который нынешнее руководство страны может выполнить безболезненно для себя, назначив на этот пост какого-нибудь лояльного к власти депутата Национального собрания. Здесь может возникнуть только одна проблема — этого представителя по правам человека может не признать мировое сообщество, как не признает само Национальное собрание.

Провести честные и справедливые парламентские выборы, которые предполагают предоставление равного доступа к контролируемым государством СМИ, отсутствие цензуры газет и журналов, обеспечение свободы собраний и права на мирные демонстрации.

В последнем пункте сконцентрированы все позиции, которые на протяжении 5 лет вызывали нарекания со стороны мирового сообщества к правящему в Беларуси режиму. И все 5 лет Александр Лукашенко игнорировал эти претензии. Но сегодня ситуация изменилась — белорусские власти впервые взяли на себя обязательства по изменению существующей ситуации.

## Что будет дальше

Создается впечатление, что белорусский МИД уже работает не на существующий режим, а на оппозицию. Ведь обязательства, взятые на себя руководством страны и зафиксированные авторитетным органом ООН, по своим последствиям куда более серьезные, чем резолюция о нарушении прав человека. Отныне все международные правозащитные структуры будут в оценке ситуации в Беларуси отталкиваться от этого документа.

Возможно, белорусские власти подписались под этими обязательствами лишь для того, чтобы оттянуть время еще на год. Но тогда это совершенно дилетантский ход, ведь для Запада это станет последней каплей, переполняющей чашу терпения в отношении белорусского режима. В этом случае мы сможем ощутить на себе всю «прелесть» экономических санкций.

В любом случае власти затеяли достаточно рискованную для себя игру. Если Александр Лукашенко и впрямь решил выполнить взятые на себя обязательства, то ситуация в Беларуси быстро выйдет из-под его контроля. Достаточно лишь допустить инакомыслие в СМИ, и население моментально узнает правду о том, что происходит в стране. Свобода собраний и право на проведение митингов и демонстраций лишь доведут ситуацию до логического конца. Подобный сценарий сегодня можно наблюдать на примере Югославии, где у Слободана Милошевича не осталось шансов не только остаться руководителем государства, но и спокойно прожить остаток своих дней. ■

РЭХА

# Дык ці ўзбунтаваўся МаАЗ?

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**16 чэрвеня ў НАВІНАХ была надрукаваная заметка «МаАЗ узбунтаваўся» за маім подпісам. Роўна праз два месяцы ў рэдакцыю прыйшоў ліст, падпісаны дырэктарам завода А.Лакізам, у якім гаворыцца аб тым, што звесткі, выкладзеныя ў заметцы, як бы не зусім праўда. Па меркаванні спадара Лакізы, колькасць працоўных, якія прынялі ўдзел у страйку, перавышаная ў газеце ў 1,7—2,5 разы (цікава, чаму такая разбежка?). Ды і не страйк гэта быў, а звычайны сход, сустрэча дырэктарата з завадчанамі. Так, маўляў, заведзена: перыядычна такія сходы праводзяцца, і рабочыя замест працы абмяркоўваюць на іх праблему нявыплаты заробку. Карацей, амаль поўная хлусня ў заметцы, калі верыць дырэктару.**

**Трэба прызнаць, карэспандэнт НАВІНАЎ, канешне ж, не прысутнічаў асабіста на тым сходзе-страйку, але затое мае сведчанні сябраў Свабоднага прафсаюза горада Магілёва, якія і паведамілі гэтую інфармацыю праз сваё мінскае бюро. І гэтым людзям таксама, у прынцыпе, няма падставаў не верыць. Такім чынам, што ж было на МаАЗе — цяжка зразумець. Але я прышу дырэктарату завода свае прабачэнні, калі ў заметцы ўтрымліваецца няпраўда. Спадзяюся, што гэтыя прабачэнні недарэмныя.**

**Ніжэй НАВІНЫ часткова цытуюць тэкст ліста дырэктара завода спадара А.Д.Лакізы.**



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНИСТЕРСТВО ПРОМЫШЛЕННОСТИ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ОБЪЕДИНЕНИЕ БЕЛАВТОМАЗ
МОГИЛЕВСКИЙ
АВТОМОБИЛЬНЫЙ ЗАВОД
им. С. М. КИРОВА
212601, г. Могилев, Витебский пр-кт, 31, телетайп 102121 "МоАЗ", факс 42-28-98, тел. 42-39-19, р/с 3012000140018 в Октябрьском АК ПСБ г. Могилева, МФО 153801328

...КА БЕЛАРУСЬ
...ПРАМЫСЛОВАСЦІ
...ІКІ БЕЛАРУСЬ
...НЕ БЕЛАЎТАМАЗ
...ГІЛЁЎСКІ
...БІЛЬНЫ ЗАВОД
... М. КІРАВА
...гілёў, Віцебскі пр-кт, 31, ...АЗ", факс 42-28-98, тэл. 42-39-19, ...018 у Кастрычніцкім АК ПББ ...лёва, МФА 153801328

6.08.99г. № 8584

Главному редактору газеты "Навіны"
220034 г.Минск, ул.Д.Бядули, д.6,к.47

16 июня 1999г. в №16 Вашей газеты на странице 2 за подписью "Аляксей Шыдлоўскі!" была опубликована заметка "МаАЗ узбунтаваўся". Из заметки следует, что 14.06.99г. на Могилевском автомобильном заводе, на почве задержки выплаты заработной платы за апрель и май 1999г., произошло стихийное выступление рабочих /"бунт"/, в котором приняли участие более 4,5тыс.работников за /весь коллектив/, выразившееся в отказе всех работников приступить к работе, переросшее в забастовку /"страйк"/. Возглавил выступление рабочих забастовочный комитет /"страйкам"/. При этом в обеспечение выплаты заработной платы, кем-то были описаны ... автомобили администрации МоАЗ им.С.М.Кирова. Однако ... не соответствует событиям, имевшим место ... Могилеве 14.06.99г.
... была своевременно выплачена ... и тем более ...

*Главному редактору газеты НАВІНЫ*

*А.Д.ЛАКИЗО*

*«16 июня 1999 г. в № 16 Вашей газеты на странице 2 за подписью «Аляксей Шыдлоўскі!» была опубликована заметка «МаАЗ узбунтаваўся». Из заметки следует, что 14.06.99 г. на Могилевском автомобильном заводе, на почве задержки выплаты заработной платы за апрель и май 1999 г., произошло стихийное выступление рабочих («бунт»), в котором приняли участие более 4,5 тыс. работников завода (весь коллектив), выразившееся в отказе всех работников приступить к работе, переросшее в забастовку («страйк»). Возглавил выступление рабочих забастовочный комитет («страйкам»). При этом, в обеспечение выплаты заработной платы, кем-то были описаны служебные автомобили администрации МоАЗ им. С.М.Кирова. Однако информация в целом не соответствует событиям, имевшим место на МоАЗ им.С.М.Кирова в г.Могилеве 14.06.99 г.».*

*«Действительно на заводе не была своевременно выплачена заработная плата, но никаких стихийных бунтов, и тем более забастовок, на предприятии не происходило. Встревоженный положением с заработной платой за апрель профсоюзный комитет Автосельхозмаша 10.06.99 г. постановил провести собрание трудового коллектива в 8:00 между 2-м и 1-м блоками цехов и обсудить на нем ситуацию с заработной платой, заслушав информацию директора завода Лакизо А.Д. о предпринимаемых мерах по выплате задержанной заработной платы. Никаких же иных акций протеста проводить и не планировалось».*

*«14 июня в назначенное время вышеназванное собрание состоялось. Директор проинформировал пришедших на собрание членов коллектива о принимаемых мерах, также был обсужден ряд вопросов и не связанных с заработной платой. Собрание прошло в атмосфере взаимопонимания сторон. В целом администрация, и лично А.Д.Лакизо, пользуются авторитетом у остальной части работников и ситуация на предприятии администрацией контролируется».*

*«В собрании приняли участие, по сведениям профкома АСМ, проводившего это собрание, не более пятисот работников завода. Остальные, находившиеся на рабочих местах, исполняли свои трудовые обязанности и ни в какой забастовке или «бунте» не участвовали. Абсолютно неверными являются и данные о количестве работников МоАЗ, приведенные в заметке. Всего 14.06.99 г. вышли на работу в цехах завода 3.195 человек, в том числе в 1-ю смену (с 7:20 до 16:20) вышли на работу 2.073 работника. Таким образом, сведения о 4,5 тыс. или даже о 3,5 тыс. рабочих и «працоўных», принявших участие в «бунте» и «страйку», превышают 1,7—2,5 раза количество работников, вообще вышедших на работу в 1-ю смену завода, а ведь среди этих 2.073 были и находившиеся в командировках, работавшие на объектах и строительных площадках, вне основной территории предприятия и в городе Могилеве».*

*«...Нельзя принять всерьез заявление о том, что проблема задержанной на 1 месяц заработной платы была разрешена к обеду (к 12:00), т.е. за 3 часа, в то время, как с начала мая 1999 г. ее разрешить не могли».*

*«...14.06.99 г. в связи с невыплатой зарплаты на МоАЗ им.С.М.Кирова автомобили администрации не описывались».*

*«...Никакого забастовочного комитета в мае 1999 г. и позднее на МоАЗ не создавалось, так же как и не было никакого «страйка».*

*«...В связи с тем, что заметка «МаАЗ узбунтаваўся», опубликованная в газете НАВІНЫ № 66 от 16.06.99 г., содержит в себе сведения, не соответствующие действительности, а также неверно создает впечатление у читателей о том, что руководство МоАЗ не в состоянии руководить предприятием и контролировать на нем ситуацию, что подрывает деловую репутацию как руководства завода, так МоАЗ им.С.М.Кирова в целом как делового партнера. Могилевский автомобильный завод им.С.М.Кирова требует опубликовать опровержение на заметку «МаАЗ узбунтаваўся»...»* ■

ДЫЯГНАЗ

## КриМенталитет-1



Александр ПОТУПА

По-французски *менталитет* — склад ума. То есть, конечно, не то место, куда попадает белорусская продукция в долгом ожидании смелого покупателя. Тем более трудно представить, что в этой стране можно было бы складировать ум — он-то за отсутствием подобающего внутреннего использования экспортируется все интенсивней и бесплатней. Так что речь идет о мировосприятии, психологической ориентации некой группы населения и даже целого народа. А новым термином мы обозначаем такое интересное и всепоглощающее явление, как криминальную ориентацию большевизированного разума или того, что последний замещает.

Некогда громадная шайка придумала замечательную схему ограбления народа с помощью самого же народа. Простому человеку сказали: «Ежели ты, дорогой труженик, признаёшь нас начальниками, имеешь право грабить всех, кто живет лучше тебя! А которые супротив выступят — штыком в пузо». Простонародье с радостью признало и с еще большей радостью дело свое сделало. Тогда ему сообщили: «Все вокруг, понятно, народное. Вот тее народное государство в нашем, начальства, светлом *физико-юридическом лице* всем этим и будет впредь управлять к твоей же, суконное рыло, простонародной пользе. А которые несогласные добровольно и с песнями, будут считаться врагами народа. И — штыком в пузо».

Потом для удобства, чтобы светлые лики не перепутались, в каждом помещении водрузили по портрету лысого или усатого. И приступили к выведению *породы зэкообразных* в масштабе построения зоны в одной отдельно взятой стране, а потом и во всем обширном соцлагере. Как и во всякой приличной зоне, было написано и расклеено по стенам множество инструкций внутреннего распорядка, но вообще-то жить следовало по ПГН (понятиям гражданина начальника), иначе — не выжить. И уж каждый, за исключением самого простейшего простонародья, понимал, что по инструкции — и невозможно, и бесполезно. А в суровой действительности жизнь рядового зэка зависит от умения делиться с ближайшим надзирателем, который есть *обер-зэк и унтер-начальник* одновременно. И его существование зависит от вышевоседящего товарища, и так далее, вплоть до Учредителей Банды, простите, *Всепростонародного Краснознаменного Государства* в лице среднеполого существа по имени Политбюро, *омордотворенного* своим Генеральным Секретарем (до Генеральных Секретарш, увы, не дошло, обходились рядовыми, но миленькими).

Здесь же истоки *конвертируемой экономики* — это отнюдь не изобретение *новорусско-белорусских*. Официально 500 рэ в месяц плюс конфиденциальный конвертик, где, скажем, 1.500, которые только *конвертируемый начальник* и может превратить в полновесные 2.500 баксов по курсу 60 копеек за доллар. Или в соответствующие вещицы. Плюс кое-что солидное от *нижележащих и нижелижущих* — в виде пухлых конвертиков или прямо ценной натурой.

Надеюсь, вы понимаете, почему у них до сих пор не поднимается рука на Мавзолей Главного Учредителя, указавшего путь к такому счастью. Хотя они, граждане начальники, пошли много дальше своего великого учителя, который так и не успел попользоваться всеобщей конвертируемостью. Но вот что важно — их историческое путешествие в коммунистическое будущее длится и в наши дни. ■

# Сум муараванак

Кастусь ТАРАСАЎ

**11 гадоў назад міністэрства культуры БССР, Рэспубліканскае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў і Беларускі фонд культуры зрабілі надзвычайны па тых часах учынак. У міністэрства замежных справаў рэспублікі была пададзеная для перадачы ў ЮНЕСКО прапанова пра ўключэнне ў Спіс сусветнай спадчыны шэрагу помнікаў на тэрыторыі Беларусі. Канкрэтна прапанова пазначала Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс, Мураванкаўскую і Сынкавіцкую абарончыя цэрквы, Мірскі замак, Сафійскую царкву ў Полацку, Каложскую царкву ў Гродне, касцёл у Камаях, царкву Дабравешчання ў Віцебску, Камянецкую вежу, гістарычны цэнтр Гродна. Тады гэты зварот у МЗС абнадзеіў грамадскасць, што нарэшце пра нашы помнікі даведаецца свет і замежныя госці будуць дзіваваць на каштоўнасці беларускай культуры.**

Зразумела, што ніхто на нашы помнікі даўніны не дзівуе, бо і сёння свет пра іх не даведаўся ані слова. Напрыканцы стагоддзя Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая не прадстаўленая ў Спісе сусветнай спадчыны хоць бы адзінай каштоўнасцю. Патрапіла ў Спіс толькі Белавежская пушча, але паколькі яна створаная Богам, дык заслугі нашых дзяржаўных установаў тут няма. Адпаведна мы і выглядаем у вачах сусветнай культурнай грамадскасці — лясны дзікі кут, дзе водзяцца зубры.

Маюцца звесткі, што Дзяржаўнае ўпраўленне па ахове гісторыка-культурнай спадчыны рыхтуе дакументы для ЮНЕСКО па Мірскім замку для ўключэння ў прыгаданы Спіс. Грошы на яго аднаўленне пералічвалі розныя ўстановы і грамадскія арганізацыі, праект меў і грант ад ЮНЕСКО ў 30 тысяч долараў. Таму можна спадзявацца, што доўгачаканы прэстыжны статус замак нарэшце атрымае. Магчыма, гэта паспрыяе завяршэнню яго бясконцай рэстаўрацыі (аб'явяцца некалькі магутных спонсараў).

Астатнія помнікі, што пералічаныя вышэй, знаходзяцца ў тым самым стане, як і 11 гадоў таму. Дакументы, неабходныя для разгляду іх вартасцяў экспертамі ЮНЕСКО, ніхто не рыхтаваў, і таму спадзеі ўбачыць іх у Спісе сусветнай спадчыны пакуль што не можа быць. Немагчыма паверыць, што падрыхтоўка дакументальнага забеспячэння — непасільная праца для нашых навукоўцаў. Тым болей, што амаль усе аб'екты, пазначаныя ў той даўняй прапанове, маюць больш-менш прыстойны дагляд. Значыць, прычына палягае ў іншым.

Адзінаццаць гадоў назад выступленні за ахову і рэстаўрацыю помнікаў былі праявай супраціву антыбеларускай палітыцы кіраўніцтва рэспублікі. Мноства людзей меркавала, што адраджэнне старажытных помнікаў, а тым болей залічэнне іх да групы «о» (помнікі сусветнага значэння) дапаможа нам «людзьмі звацца», паслужыць мэтам самапавагі, роўнасці з іншымі еўрапейскімі краінамі. Як заўжды, беларускія мары аказаліся марнымі.

Існуючая ўлада, прыняўшы закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», належнага клопату пра захаванне і рэстаўрацыю помнікаў не выказвае (як, да месца сказаць, рабіла і ранейшая, тут поўная пераемнасць). Безупыннае паглыбленне эканамічнага крызісу бязлітасна змяншае сціплае дзяржаўнае фінансаванне. Гэта сталася зручнай падставай для апраўдання шматлікіх парушэнняў. На грамадскую думку, па сённяшніх правілах дзяржаўнага жыцця, ніхто з чыноўніцтва не зважае. Уяўленні ж простай публікі пра патрэбу захавання гісторыка-культурнай спадчыны застаюцца цьмяныя і ў абставінах вымушанай барацьбы за фізічнае выжыванне наўрад ці зменяцца. Калі дзяржава не клапоціцца, інтэлігенцыя не ляманціе, а радыкальная моладзь не становіцца ў пікеты (як раней рабілі «Талака» і «Пагоня»), дык ад каго просты чалавек мусіць заразіцца ахавальным энтузіязмам?


Мураванка. Дах з чарапіцы да рамонту.


Мураванка. Ліставы дах пасля рамонту.

Узор клопату мелася б падаваць царква, якая атрымала ў валоданне мноства старадаўніх культавых пабудоваў. Але яна падае хутчэй узор абыякавасці да спадчыны. Чужая на тэрыторыі Беларусі руская праваслаўная царква, пераследуючы мэты колькаснага росту прыходаў, не надта зважае на абавязкі, якія ўскладае на сябе, калі атрымоўвае ў карыстанне нерухомыя каштоўнасці нашай спадчыны. Нават з таго спісу, што названы вышэй, можна прыгадаць помнікі культуры, якія пасля таго, як патрапілі ў валоданне экзархата, пазбавіліся магчымасці патрапіць пад ахову ЮНЕСКО (страчваецца аўтэнтычнасць). Прыкладам, экзархату была перададзеная Мураванкаўская царква-крэпасць — выдатны помнік беларускай архітэктуры 16 стагоддзя, якая мае рысы готыкі і Рэнесансу. Пабудаваная ў 1521 годзе ў вёсцы Мураванка (Шчучынскі раён), яна была «падпраўлена» царкоўнікамі ў 1871 годзе (дабудаваны бабінец, паніжаны дах, разабраныя лесвіцы ва ўсходніх вежах, павялічаныя вокны, закладзеная частка байніцаў, атынкаваны шчыт, зробленае іншае «ўпрыгожанне»). Зараз Мураванка дадаткова скалечана, што лёгка заўважыць, параўноўваючы ранейшы і сённяшні здымкі. Дах царквы, які быў выкананы з чарапіцы, сённяшнія апякуны асучаснілі ліставым пакрыццём сіня-шэрага колеру, які больш пасуе да кароўніка, чым да готыкі ці барока. Любы спецыяліст, які будзе праводзіць экспертызу гэтага аб'екта, прапанаванага ў Спіс сусветнай спадчыны, перажыве шок, убачыўшы такую «рэстаўрацыю». Выключна для мясцовага насельніцтва можна гаварыць пра захаванне старажытнага храма («Добра паклапаціліся, вада за каршэнь не будзе ліцца, калі молішся!»).

Старадаўняя Петрапаўлаўская царква ў Мінску абкружаная металічнай агароджай ручной кавальскай работы. Новыя ўладары выкінулі з яе два праёмы і замест іх паставілі гандлёвыя кропкі. Аднак, неахайны, брыдкі будынак гаража на падворку царквы клапатліва захоўваецца. Зразумела, гараж у цэнтры горада — святое. Як царкве ды без сховішча для аўтатранспарту? Усе «мимо храма проходящие», калі хрысціцца на царкву, дык міжвольна хрысціцца і на гэты аўтапрытулак. Можа, так і трэба ў наш час. На тэрыторыі царквы Марыі Магдалены на вул. Старажоўскай у Мінску таксама пабудаваны гараж. Варта дадаць, што зроблена гэта на месцы ранейшых праваслаўных могілак. Але і каталіцкія святары дапаўняюць гістарычныя помнікі закрытымі аўтастаянкамі. Пад Чырвоным касцёлам у Мінску падчас яго рэстаўрацыі таксама ўзнікла зала для транспарту. Іншым разам знявага да помнікаў набывае дэкларатыўны характар. Напрыклад, візантыйская мазаіка, якой аздобілі фасад былой уніяцкай царквы ў Мінску (помнік барока), сведчыць як пра благі густ аўтараў аздобы, так і пра наўмыснае папіранне закона «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны»: «як нам захацелася, так мы і зрабілі. І што, солі на хвост насыпеце?» Хто ж з чыноўнікаў насмеліцца запярэчыць – раптам абвесцяць анафему.


Фота Ул.ШЛАПАКА
Так, на думку «рэстаўратараў», выглядалі ўнутраныя двары Верхняга горада ў XVIII-XIX стагоддзях

Найбольш маштабныя парушэнні дэманструе закрытае акцыянернае таварыства «Стары Менск», якое ўжо з гадоў восем праводзіць рэстаўрацыю Верхняга горада ў Мінску. Калі паглядзець на сітуацыю з Верхнім горадам сур'ёзна, дык валасы ўздыбліваюцца ад усведамлення, на што здольныя акцыянеры «Старога Менска». Пад выглядам рэстаўрацыі ўзводзіцца новабуд, які цалкам супярэчыць духу даўніны і духу горада. Раён ператвораны ў мясціну офісаў і стаянку аўтатранспарту ўладальнікаў «адноўленых» камяніцаў. Дастаткова паглядзець на закрытую дамамі стаянку машын з боку вул. Герцэна, каб зразумець, што праект «рэканструкцыі» ўхвалілі людзі, якія ненавідзяць даўніну і стары Мінск. Дзе ж гэта бачана, каб унутраная планіроўка квартала, дзе калісьці быў манастырскі сад, а потым жылыя і гаспадарчыя пабудовы, стала асфальтавай пусткай. Няўжо так было ў XVII–XIX стагоддзях? Зараз вырашаецца лёс дома па вуліцы Герцэна, 12 (той жа Верхні горад). Вакол гэтага помніка архітэктуры XIX стагоддзя вядзецца барацьба, у якую ўцягваецца пракуратура. «Стары Менск» прыняў праект, па якім гэты дом павінен быць зруйнаваны, а на ягоным месцы ўзведзены «падобны» знешне, але іншы ўнутры (з сеткай калонаў 6х6, люстраной залай і г. д.). Можна смела канстатаваць, што Верхні горад скончыў сваё зямное існаванне. Гэта ўжо мёртвы раён Мінска. Прайдзіцеся па яго вулках, гукніце тут увечары «А-у!» З дзвярэй выглянуць толькі начныя ахоўнікі фірмаў. Дзе стагоддзямі было нармальнае жыццё сем'яў — могілкавы спакой. Па сутнасці, ЗАТ «Стары Менск» за такую рэстаўрацыю павінен быць адхілены ад работ і страціць ліцэнзію. Але штучна створанае замкнёнае кола перакоціцца ў наступнае тысячагоддзе: ЗАТ шукае заказчыкаў на аб'екты рэстаўрацыі, бо без іх не можа фінансава існаваць, а пакупнікі прэстыжных камяніцаў апраўдваюць яго існаванне. Рэстаўрацыя вядзецца, вядомая рэч, з улікам пажаданняў грошадавальніка. Было б лепш, калі б ЗАТ не рэстаўраваў Верхні горад. Можа пазней гэта зрабілі б па-сапраўднаму — з густам, любоўю, з думкай пра гараджанаў. Хто падумае, што гэта — аўтарскае перабольшанне, можа агледзець вынікі рэстаўрацыі Верхняга горада на ўласныя вочы. Карэнным мінчанам, аднак, лепш устрымацца ад экскурсіі, бо на тыдзень будзе моцна сапсаваны настрой.

Магчымасць багатай фірме, банку, нават прыватнай асобе набыць дом у гістарычным квартале мае ўмовай падпісанне ахоўных абавязкаў. Як яны потым выконваюцца, паказваюць прыклады навагрудскага ветрака XVII стагоддзя, Мураванкі, Петрапаўлаўскай царквы. Прыналежнае ўсяму народу пераходзіць у прыватныя рукі. Закон «Аб ахове» гэта дазваляе, у ягоных параграфах улічаны еўрапейскі вопыт. Аднак, не ўлічана, што, прыкладам, у Англіі пасля такога «рамонту» даха, які правялі ў Мураванцы, абшчына вылецела б з будынка, як куля, і яшчэ б заплаціла агромністы штраф.

Цяжка прыгадаць на Беларусі помнік (мовай закона — гісторыка-культурную каштоўнасць), які ні пацярпеў бы крыўды. Пацярпелыя камяніцы і ствараюць нашу спадчыну. Але, як пісаў Гогаль у «Запісках вар'ята», маўчанне, маўчанне, маўчанне! Некаму ж карысная цішыня вакол аддзялення нашай нерухомай гісторыка-культурнай спадчыны ад народа. ■


Фота Ул.ШЛАПАКА
Гараж (задні план) і гандлёвы кіёск на падворку Петрапаўлаўскай царквы


Фота Ул.ШЛАПАКА
Помнік архітэктуры XIX стагоддзя (вул.Герцэна, 12), замест якога можа паўстаць «новабуд»

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 588 Нумар падпісаны ў друк 23/08/99 (15:00) Наклад – 16.450